Народная Воля http://www.nv-online.info 13 СНЕЖНЯ 2016 г.

ДЫЯГНАЗ

Фота Алеся СІВАГА.



"Прэзідэнцкую" бальніцу пачалі будаваць летась, і аб'ект абяцаюць здаць ужо ў наступным годзе.

# Для чыноўнікаў і для… народа



Паліклініка для жыхароў віцебскага мікараёна "Поўдзень-7А" ўзводзіцца з 2012 года, і, як бачым, канца будаўніцтву не бачна.

*Ужо ўсе ведаюць: у сасновым лесе пад Мінскам узводзіцца новая так званая прэзідэнцкая бальніца. Папярэдні кошт медыцынскага аб'екта для чыноўнікаў – 100 мільёнаў еўра. У той жа час у Віцебску – чацвёртым горадзе Беларусі па колькасці насельніцтва (паводле дадзеных на 1 студзеня 2016 года, у абласным цэнтры пражывае 368 тысяч 574 чалавекі) ужо некалькі гадоў не могуць дабудаваць важныя медыцынскія аб'екты. Там з 2012 года вядзецца будаўніцтва паліклінікі ў мікараёне «Поўдзень-7А». З 2009-га (!) рэканструіруецца хірургічны корпус абласнога анкадыспансера.*

Калі Віцебскам кіраваў адпраўлены нядаўна ў адстаўку з пасады кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Аляксандр Косінец**, было абяцана закончыць рэканструкцыю корпуса ў 2011 годзе! Косінец амаль два гады прабыў на высокай пасадзе ў Мінску, а хірургічны корпус анкадыспансера ўсё яшчэ рэканструіруецца...

Цяпер абяцанні пакончыць з даўгабудамі ў медыцыне дае новы кіраўнік Віцебскай вобласці – **Мікалай Шарстнёў**. *«Я без малога два гады ў вобласці працую, прыйшоў час і гэтыя хвасты падцягваць»*, – нядаўна заявіў ён.

– *Недабудаваных аб'ектаў аховы здароўя ў нас, на жаль, шмат*, – прызнаўся чыноўнік падчас прыёму грамадзян. – *Гэта паліклініка «Поўдзень-7А». І абласная бальніца знаходзіцца ў незадавальняючым стане, і хірургічны корпус абласнога анкалагічнага дыспансера рэканструіруецца з 2009 года, а праблема анказахворвання ў Віцебскай вобласці стаіць вельмі востра.*

Шарстнёў супакоіў гараджан: прынята рашэнне аб тым, што *«паліклініку мы павінны абавязкова дабудаваць»*. Але абмовіўся: *«фінансамі для дасягнення гэтай мэты можам распараджацца толькі ў тых аб'ёмах, якія маем у вобласці і горадзе. Аб'ект уключаны ў інвестыцыйную праграму 2017 года. Для завяршэння паліклінікі і яе аснашчэння неабходна 250 мільярдаў недэнамінаваных рублёў».*

– *У наступным годзе вырашана асвоіць у роўных долях 40 мільярдаў з гарадскога і абласнога бюджэтаў*, – расказаў аб планах кіраўнік Віцебскай вобласці. – *Гэта дазволіць узвесці будынак пад дах. А ў 2018 годзе паліклініка будзе адкрыта. Фінансаванне павінна наступіць па кітайскай дзяржаўнай крэдытнай лініі. ...Пачатковы этап працы ўжо выкананы. Кітайскі бок пацвярджае свае намеры. У ходзе візіту беларускай дэлегацыі ў Кітай мы падпісалі пэўныя дакументы, а цяпер другі тыдзень прадстаўнікі КНР працуюць у нас над удакладненнем многіх неабходных дэталяў.*

Паводле слоў Мікалая Шарстнёва, з дапамогай кітайскага боку плануецца пакончыць і з іншымі медыцынскімі даўгабудамі Віцебшчыны – рэканструкцыяй хірургічнага корпуса анкадыспансера, раённай бальніцы ў Міёрах і, магчыма, рэканструкцыяй хірургічнага корпуса гарадской бальніцы імя Сямашкі ў Оршы, якая цягнецца з 2012 года (хоць там пралічаны і іншыя крыніцы, абмовіўся Мікалай Шарстнёў).

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БЕЛАРУСЬ–РОССИЯ

# Кто заказал скандал?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Беларусь смогла эффективно распорядиться европейской помощью, в России в этом направлении что-то сделано лишь фрагментарно. А инфраструктура не подготовлена, обучение специалистов не проведено. О предприятиях и говорить не приходится! Мы же в рамках реализации проекта вывели заводскую лабораторию завода «Атлант» на глобальный уровень. Теперь испытания по энергоэффективности, проведенные на «Атланте», могут признаваться во всем мире.

**– Честно говоря, с трудом верится, что все белорусские предприятия готовы со своей продукцией с ходу пройти сертификацию…**

– Никто из производителей принципиально не возражал против введения в Беларуси требований к энергомаркировке и энергоэффективности продукции, так как все знакомы с этим не понаслышке.

Большинство предприятий, особенно крупных, готовы к новым требованиям очень даже хорошо, а остальным еще предстоит решить некоторые проблемы, но это не критично. Самое главное, что с введением требований наши производители получают дополнительное конкурентное преимущество и не только на своем рынке.

## Печенье стоит дороже

**– Россияне утверждают, что сертификация выльется в круглую сумму. По логике выходит, что все эти расходы в конечном итоге лягут на плечи белорусских покупателей…**

– Я видел цифры, на которые ссылаются во многих публикациях. Пишут, что испытание одного холодильника обойдется в 5 тысяч долларов, стиральной машины – 1200. Сразу скажу, что данные взяты с потолка, они не соответствуют действительности.

**– Тогда назовите другие, конкретные.**

– Что касается серийной сертификации, то сумма вряд ли превысит 1000 долларов за всю процедуру для групп продукции, включенных в сертификат. Если это массовое производство, то в цене конечного продукта это будут доли цента. Для серьезных производителей это деньги на уровне статистической погрешности. Иногда на печенье в приемной начальника цеха в год может быть потрачено гораздо больше.

Но почему-то именно на этом моменте делается какой-то спекулятивный акцент. И, как ни странно, шум поднимает именно тот, кто участвовал в реализации проекта за 65 миллионов долларов и приложил руку к срыву разработки общего технического регламента.

**– Может, это просто очередной фрагмент из сценария намечающегося глобального противостояния между Россией и Беларусью – пока, к счастью, лишь информационного? Не секрет, что в последнее время российские эксперты слишком тенденциозно указывают на антироссийскую политику белорусских властей…**

– Я не искал бы здесь никакой конспирологии. Думаю, это уровень сегодняшней России, когда каждый элемент политической и экономической системы работает по собственным правилам и законам.

Сегодня в России сертификаты можно получить, а фактически купить, за два-три дня. Причем они процедуру сертификации превратили почти в криминальный процесс. Если говорить о реальной задаче технического регулирования – это прежде всего защита собственных производителей и потребителей, чтобы на рынок не поступал хлам. Ясное дело, что дешевле Китая сегодня никто не может ничего произвести. Но ведь и китайская продукция бывает разная. И именно система технического регулирования должна обеспечить защиту нашего рынка от продукции, не соответствующей современным требованиям, в частности, энергомаркировке и энергоэффективности.

Дело дошло до абсурда. Россияне вдруг посчитали, что заявителем на сертификацию могут быть только резиденты стран ЕАЭС. А иностранный производитель не имеет права напрямую заявиться на сертификацию: мол, кто потом будет отвечать за сертифицированный товар? По логике россиян выходит, что сертифицирующий орган имеет право принять заявку только у «прокладки» – дополнительной фирмы, уполномоченной производителем. На наш взгляд, это просто попытка заработать на производителях и в конечном итоге на потребителе.

Россияне выступают против введения требований у нас, но ввели у себя еще с 2010 года. И у них они работают. К слову, при поставке продукции в Россию белорусские предприятия, в частности «Атлант» и «Горизонт», молча, не поднимая шума, обеспечивают энергомаркировку. При этом все требуемые проверки осуществляют в собственных заводских лабораториях.

Мы ввели, а фактически повторили такие же правила у себя, но сделали это профессионально, по-честному. И вот реакция…

Я вам больше скажу: введение в Беларуси обязательной сертификации отдельных видов продукции по требованиям энергомаркировки и энергоэффективности вскроет еще немало проблем системы единого технического регулирования ЕАЭС. Скандалы еще только начинаются…

**Марина КОКТЫШ.**

### Для справки

В Госстандарте ситуацию с введением обязательной сертификации объясняют буквально на пальцах.

*«В настоящее время на электротехническую продукцию действуют технические регламенты Таможенного союза*, – информирует пресс-служба ведомства. – *В «План разработки технических регламентов Евразийского экономического союза и внесения изменений в технические регламенты Таможенного союза», утвержденный решением Совета ЕАЭС в феврале этого года, включена разработка технического регламента ЕАЭС «О требованиях к энергетической эффективности энергопотребляющих устройств», содержащего дополнительные к уже установленным в ЕАЭС обязательные требования в части энергоэффективности данных изделий.*

*Проект этого регламента в настоящее время находится на внутригосударственном согласовании в государствах – членах ЕАЭС. При его вступлении в силу национальные требования в Беларуси будут отменены, и обязательное подтверждение соответствия будет осуществляться, согласно требованиям единого техрегламента.*

*Одновременно следует отметить, что требования государственных стандартов Республики Беларусь, на соответствие которым будет осуществляться обязательная сертификация электротехнической продукции по требованиям энергоэффективности, в основном совпадают с требованиями, установленными в проекте технического регламента ЕАЭС «О требованиях к энергетической эффективности энергопотребляющих устройств», а также гармонизированы с европейскими.*

*Что касается стоимости сертификации и испытаний продукции по требованиям энергоэффективности, то она будет формироваться в соответствии с законодательством Республики Беларусь на основе договора с органом по сертификации и испытательной лабораторией в зависимости от состава работ».*

По словам чиновников Госстандарта, сертификацию могут не пройти те, кто завозит в Беларусь электротехнику неизвестного происхождения с неподтвержденными свойствами, тем самым вводя в заблуждение отечественных потребителей и недобросовестно конкурируя с партнерами на рынке.

Виды электротехнической продукции, на которые будет вводиться обязательная сертификация, являются наиболее энергопотребляющими. Покупая товар с высоким классом энергоэффективности с целью экономии энергоресурсов и соответственно платы за них, потребителю важно, чтобы класс энергоэффективности действительно соответствовал заявленному в маркировке. При эксплуатации, к примеру, холодильника класса А+ плата за потребленную им электроэнергию будет более чем в 2 раза меньше, чем при пользовании холодильником класса В. Для обеспечения присутствия на рынке страны энергоэффективной продукции с достоверными заявленными характеристиками и вводится обязательная сертификация по требованиям энергоэффективности.

НУ І НУ!

# Крэслам па спіне

*"Адзін член партыі назваў другога неадэкватным і амаль адразу атрымаў моцны ўдар у твар. Другі адбіваўся ад калегі кіем. У гэты ж час на падлозе рукамі і нагамі змагаліся за свае погляды два члены абкама. Адна дама спачатку спрабавала суцішыць калег, даўшы абодвум штурханца, а калі і гэта не дало выніку, схапілася за крэсла..."*

*Вось так ярка і нестандартна ў Віцебску пару дзён таму прайшло пасяджэнне абкама Віцебскай абласной арганізацыі БСДП (Грамада) з удзелам вышэйшага партыйнага кіраўніцтва.*

*"Прапанова віцебскага абкама партыі далучыцца да Беларускага нацыянальнага кангрэса была сустрэта ў штыкі, і справа скончылася мардабоем", – напісаў пасля ў "Фэйсбуку" адзін з сябраў БСДП (Грамада).*

*"Народная Воля" пацікавілася, ці ўсе засталіся жывыя пасля такой гарачай партыйнай нарады або некаму давядося выклікаць "хуткую"?*

– Усе жывыя, – *адказала старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)* ***Ірына Вештард.*** – Каменем непаразумення стаў наш партыйны статут. Я заўсёды гаварыла, што ніколі не падтрымаю прапаноў, якія супярэчаць статуту. Так, напрыклад, пытанні аб супрацоўніцтве партыі з іншымі грамадскімі аб'яднаннямі і структурамі – сфера рашэнняў ЦК, і ніякі абкам не мае права вырашаць, далучыцца яму да той ці іншай ініцыятывы ці не. Я сказала: шаноўныя сябры, не проста прашу, а нават патрабую, каб вы нарэшце пачалі выконваць статут, бо нам яго ніхто не навязваў, мы яго самі пісалі і нават вялі вайну, каб яго Міністэрства юстыцыі зацвердзіла. А цяпер нагой спрабуем адштурхнуць гэты дакумент! Паколькі пытанне стаяла вельмі прынцыпова, некаторыя пачалі паміж сабой спрачацца.

Я вырашыла падстрахавацца і, калі сітуацыя выйшла з-пад кантролю, уключыла запіс таго, што адбывалася на сустрэчы. Адзін сказаў: "Зараз у лоб атрымаеш..." – гэта нават на дыктафоне чуваць. Ну і пачалося... А як там далей пайшло – адразу і не разбярэшся. Адны кінуліся бараніць другіх, іншыя кінуліся разнімаць тых, хто бароніць...

**– А хто там за крэсла схапіўся?**

– Так здарылася, што адзін сябра партыі – малады і больш дужы – паваліў на падлогу больш старэйшага па ўзросце. Ледзь не задушыў! Спалохаўшыся, адна з сябраў партыі спачатку добра стукнула яго па галаве рукой, а калі гэта не дапамагло, схапілася за крэсла. А ці пацэліла там крэслам каму ці не – па-ўсякаму магло быць, бо такі пярэпалах быў!.. Я за гэтым спецыяльна не сачыла, бо хвалявалася за адну жанчыну не вельмі моцнага здароўя – каб ёй не дасталося.

**– Пісалі, што вам таксама заехалі па спіне...**

– Не, не было такога. Гэта ўжо пішуць для таго, каб агульную карціну бойкі стварыць, шукаюць смажаныя факты.

**– А чым скончылася гісторыя? Міліцыю выклікалі?**

– Не, абышліся сваімі сіламі *(усміхаецца).* Усе адзін у аднаго папрасілі прабачэння, прызналі свае памылкі і паабяцалі, што такое больш ніколі не здарыцца. Закрылі дадзенае пытанне і скончылі сустрэчу на нармалёвай ноце...

Калі я ўзначаліла партыю, мне адна спадарыня жартам сказала: "Ірына Зянонаўна, вы павінны разумець, што старшыня партыі існуе ў тым ліку і для таго, каб білі палкай, таму іншы раз можаце і па галаве, і па спіне атрымаць..." Ну вось, амаль што адбылося...

Раней я пасля падобных сітуацый не раз дома плакала. Але я моцная жанчына, нават калі і наплаканая. Вытрымаем! Але партыйны статут парушаць я нікому не дазволю!

**Марына КОКТЫШ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Анжаліка БОРЫС:

# «Пра аб'яднанне з афіцыйным Саюзам палякаў размовы быць не можа»



*У непрызнаным беларускімі ўладамі Саюзе палякаў змянілася кіраўніцтва. Старшынёй замест Мечыслава Яскевіча абрана Анжаліка Борыс. За яе кандыдатуру прагаласавала большасць дэлегатаў справаздачна-выбарчага з'езда арганізацыі, які днямі прайшоў у Гродне.*

Зразумела, што прадстаўнікоў улады на з'ездзе не было, затое на форуме прысутнічаў амбасадар Польшчы ў Беларусі **Конрад Паўлік**.

– Як я ацэньваю вынікі з'езда? Калі гаварыць пра вынікі галасавання – перамагла дэмакратыя. Калі гаварыць пра далейшыя крокі, то наперадзе шмат працы, – заявіла "Народнай Волі" Анжаліка Борыс. – Я падкрэсліваю: Саюз палякаў Беларусі не з'яўляецца палітычнай партыяй і ніколі ёй не будзе. Таму ў першую чаргу мы, як і раней, будзем займацца адукацыйнымі пытаннямі. Наша задача – пашыраць кола настаўнікаў польскай мовы ў Беларусі, тлумачыць бацькам, каб яны пісалі заявы для адкрыцця ў Беларусі пунктаў, дзе іх дзеці маглі б вывучаць польскую мову. Другі напрамак – культурніцкі: у наступным годзе мы будзем адзначаць даты, звязаныя з імёнамі Пілсудскага і Касцюшкі. І трэці напрамак – гэта абарона інтарэсаў прадстаўнікоў польскай меншасці, калі ў гэтым будзе патрэба. Зараз ніякага адкрытага канфлікту ў нашага саюза з беларускімі ўладамі няма. Мы не тая арганізацыя, якая ладзіць правакацыі, але, калі, не дай Бог, з боку ўлад Беларусі будуць нейкія атакі, мы гатовы бараніць сваіх людзей.

**– Як усё ж такі будзеце дамагацца афіцыйнага прызнання Саюза палякаў?**

– Гэта цалкам залежыць ад беларускіх улад. На гэта патрэбна іх палітычная воля. Але пакуль ніякіх зрухаў не адчуваецца. Нядаўна ўвогуле быў выпадак, калі ваўкавыскіх сябраў нашага Саюза не пусцілі ў польскую школу. А людзі ўсяго толькі хацелі перадаць туды падручнікі. Мы гатовы абмяркоўваць сітуацыю з уладамі і чакаем ад іх пазітыўных сігналаў.

**– Пра супрацоўніцтва з афіцыйным Саюзам палякаў размова не ідзе?**

– Так. Ні пра супрацоўніцтва, ні пра аб'яднанне з гэтай арганізацыяй размова не ідзе. Я лічу, што ў Беларусі свабодна і спакойна могуць існаваць дзве арганізацыі, і нядаўні візіт у Беларусь старшыні Сената Польшчы можа гэтаму паспрыяць.

* * *

Нагадаем, што з 2005 года ў Беларусі існуюць два Саюзы палякаў. 11 гадоў таму Міністэрства юстыцыі Беларусі не прызнала вынікі з'езда арганізацыі, на якім старшынёй таксама была абрана Анжаліка Борыс. Пасля гэтага арганізацыя раскалолася, і ў краіне сталі працаваць два Саюзы палякаў: адзін – на чале з Мечыславам Лысым, прызнаны беларускімі ўладамі, другі – на чале з Анжалікай Борыс, прызнаны ў Польшчы.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

АФІЦЫЙНА



Конрад ПАЎЛІК:

## «Мы хочам легалізацыі Саюза палякаў»

Паводле вынікаў з'езда альтэрнатыўнага Саюза палякаў Беларусі амбасадар Польшчы ў Беларусі Конрад Паўлік заявіў:

– Мы чакалі, калі пройдзе з'езд. Гэта чарговы этап. Адносіны Варшавы ў гэтым пытанні застаюцца нязменныя: мы хочам легалізацыі Саюза палякаў Беларусі. Мы таксама хочам весці перамовы пра маёмасць Саюза палякаў, пра Польскія дамы ў Беларусі.


Народная Воля http://www.nv-online.info 13 СНЕЖНЯ 2016 г.

РАЗВІТАННЕ

# Беларусь згубіла вялікага чалавека



Шкада, калі зямны свет пакідаюць такія знакавыя асобы. Напрыканцы мінулага тыдня ў Мінску адбылося развітанне з Якавам Валянцінавічам Радынам – беларускамоўным матэматыкам, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, прафесарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Па ўзросце ён мог яшчэ жыць ды жыць. Але цяжкая хвароба зваліла цудоўнага чалавека.

Якаў Радына нарадзіўся 1 снежня 1946 года ў вёсцы Брылькі Валожынскага раёна. Пасля школы скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. У 1972 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1987-м – доктарскую. З 1975 года – загадчык кафедры функцыянальнага аналізу БДУ.

Я.Радына – навуковы рэдактар першага ў Беларусі "Руска-беларускага матэматычнага слоўніка" (1993), суаўтар і навуковы кансультант першай у Беларусі "Матэматычнай энцыклапедыі" (2001), аўтар беларуска-польскага і польска-беларускага матэматычных слоўнікаў. На яго рахунку каля 150 навуковых прац, у тым ліку дзесяць манаграфій, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

ПАЗІЦЫЯ

# Як міністр абароны адказаў на ліст сябраў Рады БНК

Занепакоеныя інфармацыяй, распаўсюджанай скандальным расійскім тэлевядучым У.Салаўёвым, наконт таго, быццам у Беларусі было праведзена закрытае апытанне ва Узброеных сілах і "70–80 працэнтаў афіцэраў хацелі б не фармальнага, а фактычнага аб'яднання Расіі і Беларусі", група сябраў Рады Беларускага нацыянальнага кангрэса звярнулася да міністра абароны А.Раўкова з просьбай даць адпаведнае тлумачэнне. Вось яго адказ:

"На пытанні, накіраваныя Вамі ў адрас Міністэрства абароны, паведамляю наступнае:

1. Рэспубліка Беларусь – суверэнная незалежная дзяржава са сваімі нацыянальнымі інтарэсамі, сярод якіх адным з галоўных, стратэгічных з'яўляецца забеспячэнне незалежнасці, тэрытарыяльнай цэласнасці, суверэнітэту, непахіснасці канстытуцыйнага ладу краіны.

Інфармацыя аб правядзенні сярод афіцэраў беларускай арміі апытання на тэму аб'яднання Беларусі і Расіі з'яўляецца вымыслам. Падобныя апытанні супярэчаць нацыянальным інтарэсам краіны і ніколі ва Узброеных Сілах не праводзіліся.

2. Беларуская армія – арганічная непадзельная частка свайго народа. Яе афіцэрскі корпус аддадзены Беларусі і гатоў абараняць суверэнітэт, незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць краіны, непахіснасць яе канстытуцыйнага ладу ў любых умовах абстаноўкі. Гэта адна з прычын, чаму Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь карыстаюцца высокім даверам у грамадстве, а іх афіцэрскі корпус – надзейны і здатны выканаць задачы па ўзброенай абароне Рэспублікі Беларусь.

3. Сістэма ідэалагічнай работы, у тым ліку патрыятычнае выхаванне ваеннаслужачых, уключаючы афіцэраў, забяспечвае падтрыманне высокага маральнага духу ваеннаслужачых і іх гатоўнасць абараняць суверэнітэт, незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць краіны, непахіснасць яе канстытуцыйнага ладу.

4. Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь – гэта армія беларускага народа. І ні ў кога не павінна быць сумненняў, што пад кіраўніцтвам нашага Прэзідэнта, Галоўнакамандуючага Узброенымі Сіламі, у Беларусі і надалей будуць надзейна абаронены галоўныя каштоўнасці беларускага народа: суверэнітэт, незалежнасць, тэрытарыяльная цэласнасць краіны, непахіснасць яе канстытуцыйнага ладу, а значыць – мір, стабільнасць і бяспека.

Такім чынам, выказаныя Вамі сумненні наконт адданасці беларускіх афіцэраў сваёй Радзіме, беспадстаўныя. Такія сумненні ва ўласнай арміі не служаць справе забеспячэння бяспекі суверэннай незалежнай Беларусі".

Як бачым, і на гэты раз заангажаваны расійскі тэлепрапагандыст У.Салаўёў засвяціўся як правакатар і шантажыст.

**Раіса БАЧАРОВА.**

У НУМАР!

# З-пад турэмнага катка

Пра бяду братоў-фермераў Бельчукоў з Маларыцкага раёна і ў іх падтрымку напісана многа. І вось навіна: учора, 12 снежня, на волю выйшаў старэйшы з іх – Мікалай. 18 кілаграмаў страціў за кратамі. Вось што ён расказаў "Народнай Волі":

– *Я адчуваў, што губляю сілы, і быў упэўнены, што жывым не выйду. Нават развітаўся з дзецьмі… Але там у шпіталі мне зрабілі нейкі ўкол, а потым нешта пачалі ліць у вену. Гаварылі, што гэта толькі каб сэрца падтрымаць. Я і паверыў. Адчуў толькі, што рука нешта стала кепска рухацца, потым нешта ногі зусім сталі слабыя. А потым, як мяне павялі ў камеру, раптам у калідоры мне нібыта ўдарылі ў шыю нечым гарачым. Ногі зусім ватныя сталі, і я паваліўся. А старшына кажа: "Чаго разлёгся?! Можа, цябе бензінам абліць ды падпаліць? Можа, тады ты хутка пабяжыш?" І рагочуць… Для іх здзекі – гэта звычайная справа. Калі мяне ў абласную прывезлі, то пасля аналізаў пацягнулі на каталцы на выхад, каб везці ў СІЗА, а доктар кажа: "Куды? Я не дазваляю. Яго нельга ў камеру". І тады мяне завезлі ў рэанімацыю.*

***– Вы думалі, што столькі людзей будуць спачуваць вам?***

– *Я, канешне, хацеў, каб людзі даведаліся пра гэтую справу. Дарэчы, калі ў СМІ з'явіліся артыкулы пра маю справу і нават туды, за краты, прыйшоў нумар "Народнай Волі" з артыкулам пра мяне, то кіраўнік СІЗА тады і кажа мне: "Я зычу вам здароўя. Выбачайце, калі што". А я ўзгадаў, як ён на мяне крычаў: "Деревня!!! Закрой рот и не вякай!!!" Толькі і сказаў яму: "Можа, я звычайны селянін і без вышэйшай адукацыі, як вы, але так ніколі не стаў бы сябе паводзіць. Няхай Бог вам даруе, калі вы верыце, што ён ёсць".*

***– Чым будзеце займацца бліжэйшым часам?***

– *Цяпер я, канешне, крыху мушу падлячыцца, бо ў мяне моцнае абязводжванне. Але галоўная задача для мяне – дабіцца справядлівасці. Уся мая справа незаконная. Спачатку брата пасадзілі, а потым узялі і аб'ядналі нашы справы. Там парушэнняў шмат. Хачу, каб нарэшце разабраліся з пункту гледжання закона. Больш нічога мне не трэба. Людзі павінны ведаць, што справядлівасць возьме верх, бо як жа тады жыць і працаваць на зямлі?*

Так, праваахоўныя органы моцна прайшліся катком па сям'і Бельчукоў. Ды і не толькі сям'і – бадай, уся вёска была ўцягнута ў канфлікт. Аднавяскоўцы не давалі два гады таму забраць трактар Бельчукоў, а сёлета баранілі ўжо самога Мікалая. А што ж з тым інспектарам ДАІ Сяргеем Неліповічам, з прыезду якога і пачалася ўся гэтая гісторыя? Як высветлілася, інспектар за гэты час узляцеў па кар'ернай лесвіцы і стаў начальнікам ДАІ Камянецкага раёна…

**Любоў ЛУНЁВА.**

**P.S.** За кратамі следчага ізалятара ў 39-й камеры цяпер знаходзіцца малодшы брат Мікалая – Аляксандр. Яго абвінавачваюць у перашкодзе дзеянням міліцыі, калі ён стаў паміж Мікалаем і міліцыянтам. Дарэчы, ужо адзін раз Аляксандр адбыў пакаранне за нібыта напад на службоўца.

ЧУЛІ?

# Мінімальную заработную плату праіндэксуюць

*Адпаведная інфармацыя размешчана на афіцыйным сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.*



«Устаноўлены пастановай Савета міністраў ад 24 снежня 2015 года №1094 памер месячнай мінімальнай заработнай платы за лістапад 2016 года індэксуецца, як і ў папярэднім месяцы, на 5,4 працэнта, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за лістапад 2016 года не перасягнуў пяціпрацэнтны парог да месяца яе папярэдняй індэксацыі (чэрвень 2016 года). Яе памер у лістападзе 2016 года склаў 239,42 бел. рублёў», – гаворыцца ў паведамленні.

РОЗДУМ

# Калі беларусы будуць слухаць Дзявятую сімфонію Бетховена



Іван МАКАЛОВІЧ

**(Заканчэнне. Пачатак у №№94,95,96.)**

### Ці стануць Амерыка і Англія суб'ектамі Расійскай Федэрацыі?

Самы моцны і самы шкодны наркотык – хлусня. Яна раз'ядае душу.

Калі б я быў прэзідэнтам, дык першым указам забараніў бы хлусню. Бо калі грамадства пазбаўлена аб'ектыўнай інфармацыі, праўды аб тым, што адбываецца ў краіне, дык як жа яно можа прымаць правільныя рашэнні і выбіраць талковых кіраўнікоў і дэпутатаў?

Мы жывём у свеце хлусні, якая стала асноўнай ідэалагічнай упакоўкай. Цяпер хто-ніхто пераконвае даверлівых людзей, што, калі мы аб'яднаемся з Расіяй у адну дзяржаву, будзем багатыя і давольныя. Больш за тое, сцвярджаецца, што ў гэтым аб'яднанні мы будзем мець сапраўдны суверэнітэт і сапраўдную незалежнасць.

Яны што, з глузду з'ехалі ці нас лічаць такімі? Калі чуеш такое, міжволі думаеш, якія наіўныя гэтыя амерыканцы і англічане. Яны ж нават не здагадваюцца, што іхнія суверэнітэт і незалежнасць абсалютна несапраўдныя. Ім спачатку трэба стаць суб'ектамі Расійскай Федэрацыі, і толькі пасля гэтага яны будуць мець сапраўдную незалежнасць і сапраўдны суверэнітэт, такі, як у Татарстана ці Тульскай губерні, такі, да якога імкнецца Беларусь.

### Чаму авечка з усяе сілы пнецца ў хлеў, ахоплены полымем?

З яго, палаючага хлява, усе выбягаюць: каровы, коні, свінні, куры… Адна авечка рвецца туды, куды яе прывучылі заходзіць. Каровам патрэбны пастух, за свіннямі і курамі трэба назіраць, інакш яны збочаць на пасевы. А авечка будзе шчыпаць затаптаную траўку там, дзе яе пакінулі. Калі ж, вяртаючыся з пашы, убачыць новыя дзверы на двары гаспадара, дык спыніцца і доўга будзе думаць, ісці ці не. Нават выраз нарадзіўся: "Глядзіць, як баран на новыя вароты".

Чаму так? Бо гэтая жывёла, як вобразна кажуць даследчыкі, "без галавы". Канечне, галава як такая ў жывёлы ёсць, але яна дрэнна кумекае. Авечка лёгка прывыкае да аднаго і таго ж. І таму пнецца ў хлеў, ахоплены полымем.

Інтэлігенцыя лічыцца мозгам нацыі. Але ў гады сталінскіх рэпрэсій яе амаль знішчылі. Многія пакаленні беларусаў выраслі ва ўмовах расійскай акупацыі, якая расцягнулася на два стагоддзі. Яны ўжо не заўважаюць яе, успрымаюць любую форму акупацыі як нармальны стан. Таму і пнуцца ў расійскую імперыю.

### Санькі і Манькі

Аб'явілі выхад да самалёта. Некаторыя маладзёны адразу ўскочылі са сваіх месцаў і, штурхаючы лакцямі мам з малымі і пажылых людзей з чамаданамі, напралом палезлі ў дзверы, пры гэтым моцна выкрыкваючы: "Маня, не адставай!.. Санька, рві наперад!.."

З вялікай настырнасцю яны рваліся ў аўтобус, які падвозіў да самалёта. А да трапа так ірванулі, што ледзь не паваліў жанчыну з маленькім дзіцём на руках. Нібыта гэта быў апошні рэйс на Радзіму.

Назіраючы за такім малюнкам, міжволі ўспомніў трагедыю на станцыі метро "Няміга". Там, як пайшоў дождж, моладзь так ірванула ў метро, што павалілі і затапталі не адзін дзясятак юнакоў і дзяўчат.

Тут, у балгарскім горадзе Бургас пры пасадцы ў самалёт ледзь не паўтарылася трагедыя на "Нямізе". Калі б тут аказалася паболей Санек і Манек, яны маглі б затаптаць не аднаго чалавека.

### Нельга вылечыць грамадства з дапамогай хлусні. Нават самай прыгожай

Я хачу падзяліцца з вамі, шаноўныя чытачы, думкамі па адным пытанні, на якое наша грамадства доўга шукае і не можа знайсці адказ. Вось гэтае пытанне: "Чаму многія з нас жывуць усё горш і горш?"

Раней мне здавалася: варта толькі правесці свабодныя выбары, і ўсё пойдзе па правільным шляху. І вось у 1990 годзе такая магчымасць прадставілася. Але людзі прагаласавалі ў асноўным за камуністаў, тых самых, якія і прывялі краіну да развалу. Чаму? Няўжо не хацелі жыць лепей?

Нейкае тлумачэнне можна знайсці ў старадаўняй прыказцы: першы блін часта бывае камяком.

Мне падавалася, што ў другі раз падобнай памылкі грамадзяне не зробяць. Тым больш што за некалькі гадоў парламент, які складаўся ў большасці з камуністаў, толькі пагоршыў жыццё. Я быў перакананы, што пасля такіх вынікаў праўлення выбаршчыкі ніколі не прагаласуюць за старыя, скампраметаваныя сілы.

І вось у 1994 годзе адбыліся прэзідэнцкія выбары. І што ж? Народ зноў прагаласаваў за прадстаўніка, можна сказаць, савецкай сістэмы. Чаму? Гэта не паддаецца ніякай логіцы.

Як і чакалася, прэзідэнт не выканаў многіх сваіх абяцанняў. Казаў, што знізіць цэны, а яны пайшлі ўгору. Пераконваў у тым, што знішчыць карупцыю, а яна, як кажуць, у росквіце. Запэўніваў пенсіянераў, што іх жыццё палепшыцца, а атрымалася наадварот – многія з іх цяпер не маюць магчымасці звесці канцы з канцамі. Сацыяльныя гарантыі зведзены да мінімуму…

Ну, цяпер у людзей, напэўна, расплюшчацца вочы і яны выкажуць сваю незадаволенасць уладай падчас чарговых прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў, думаў я. Ды дзе там! Ведаючы пра махлярствы шэрагу чыноўнікаў, якіх спецыяльна падабралі для работы ва ўчастковых і акруговых камісіях, яны не паставілі іх на месца, не прыцягнулі да адказнасці, а праглынулі многія фальшывыя звесткі пра вынікі выбараў.

Чаму так атрымліваецца? Я доўга разважаў над гэтым пытаннем і не змог знайсці адказу. Перачытаў выказванні ў друку многіх сённяшніх вучоных, грамадскіх дзеячаў і – безвынікова.

Адказ на гэта пытанне знайшоў у выказваннях мудрацоў далёкага мінулага. Вось што яны завяшчалі нам: "Тля есць траву, іржа – жалеза, а хлусня – душу".

Хлусня – страшны наркотык, а душа – галоўнае ў чалавека. Яна – сам чалавек. Бальшавікі шмат зрабілі, каб вытравіць у чалавеку душу, бо такімі людзьмі лёгка кіраваць. Наркаману нічога не трэба. Для поўнага шчасця яму патрэбна толькі чарговая порцыя дурману. Так і людзі з вытраўленай душой – ім патрэбна чарговая порцыя хлусні. І чым яна прыгажэйшая, тым мацней яны цягнуцца да яе. Яны ўжо не хочуць слухаць праграмы апазіцыі па выхадзе з крызісу. Іх прыцягвае прыгожая казка пра абрус-самабранку. А цяперашнія ўлады – вялікія майстры на падобныя казкі.

КОМАНДИРОВКА

# Дальнобойщики



*(Продолжение. Начало в №96.)*

### Тоска по дому

Из Микулово до Вены меньше ста километров. Отсутствие границ в Европе облегчает работу дальнобойщиков. Колейки, то есть очереди на границах, достигают иной раз нескольких километров, и людям приходится жить в кабине по 2–3 недели.

– *Когда работал дома, то попадал в колейки на 10–12 дней*, – говорит Игорь, подъезжая к австрийской столице. – *Конечно, эти простои никто не оплачивал. Вот тебе и еще одно преимущество работы в Европе. В прошлом году был рейс на Россию, так люди под угрозой увольнения отказывались ехать. Никто не хочет ездить по российским дорогам, стоять в колейках, связываться с гаишниками…*

Сразу же после въезда в Австрию дальнобойщики обязаны отключить видеорегистраторы и камеры, которые установлены на машинах. Как объясняет опытный водитель, австрийцы считают видеофиксацию вмешательством в личную жизнь. За игнорирование этого требования предусмотрен крупный штраф.

В Вене на несколько часов попадаем в пробку. Из-за потери времени приходится ночевать на ближайшей стоянке, где и встречаю еще одного белоруса.

Илья Девятакин из Клецка, в Литве уже больше года. У молодого дальнобойщика дома жена и дети, до трудоустройства в иностранную фирму работал в Минске.

– *Ушел потому, что в компании не соблюдался режим труда и отдыха*, – рассказывает Илья. – *Эти бесконечные колейки, растаможки напрягали. К тому же наши устанавливают норму на топливо. Например, едешь зимой в Россию и привозишь 150–200 литров пережога. Получается, что проехал несколько тысяч километров по 0,9 цента за километр, заработал 400 евро, а тебе на шею этот пережог вешают. И в итоге задаром съездил. А здесь такого нет, поэтому в плане работы все полностью устраивает.*

Как признается Илья Девятакин, единственное, что его тяготит, отсутствие дома и близких людей рядом. Парень работает по 12–15 недель, а потом месяц проводит с семьей.

Многие стоянки оборудованы бесплатным интернетом, через который водитель общается с женой и детьми.

– *Конечно, я работал бы дома, ездил на Россию*, – говорит водитель-международник. – *Но там я просто так катаюсь, а здесь зарабатываю. Чтобы ты понимал, за месяц работы дома я получу, например, 700 рублей, а здесь – в два раза больше. Да и в целом белорусский перевозчик пока не дотягивает до европейского уровня. Недавно встретил в Польше коллег на белорусских номерах. Узнали, что соотечественник, так спрашивали координаты фирмы, чтобы поменять работу.*

Мы колесим по Австрии и говорим о причинах, по которым белорусы уезжают работать за тысячи километров. Игорь уверен, что люди едут от безысходности, так как выходить на площадь, как украинцы, не готовы.

Интересуюсь у собеседника, почему у него на стекле флажок «Погоня».

– *К нашей символике отношусь уважительно*, – серьезно отвечает Игорь. – *Ну, и чтобы знали, что за рулем белорус. Кстати, бельгийские полицейские однажды проверяли у меня документы, посмотрели на стекло и отдали воинское приветствие. Вот думаю второй флажок приобрести* (смеется).

Горные перевалы – настоящее испытание для дальнобойщиков. Затяжные подъемы тянутся десятки километров. Из-за перепадов давления и езды по туннелям закладывает уши.

Мой собеседник признается, что во время движения по горам всегда вспоминает Роберта Рождественского и наизусть декламирует четверостишие:

*Я еду, и смотрю свое кино –*
*Бегущую навстречу мне дорогу.*
*И, что бы ни случилось, все равно…*
*В конечный пункт я*
*прибываю к сроку.*

### За руль по принуждению

К концу недели мы приезжаем в итальянский город Пьяченца. По правилам труда и отдыха один раз в семь дней дальнобойщик обязан делать паузу в работе на 24 или 45 часов. Игорь Захаров объясняет: так как водитель находится в машине, то это время оплачивается, несмотря на отсутствие движения.

На итальянских стоянках для дальнобойщиков бесплатные душ и туалет – в отличие, например, от Франции, где для того, чтобы помыться, нужно заплатить три евро. Правда, на душевой пренебрежительно указано – «для русских».

Любовь на стоянках для дальнобойщиков также предусмотрена: час секса обойдется в 40 евро.

– *Эти сутки или двое люди проводят по-разному*, – рассказывает белорусский водитель. – *Уборка в кабине, готовка, фильмы, общение с семьей и так далее. Если ребята и выпивают, то без фанатизма, потому что будут последствия: в Италии, кстати, не лишают водительских прав, а запрещают въезд в страну, например, на год. В результате человек остается без работы.*

*Везет, когда стоянка недалеко от города: можно сходить в магазин, посмотреть город… Правда, надолго тоже не стоит уходить.*

Дальнобойщик имеет в виду беженцев, которые в последнее время стали проблемой не только для европейских политиков, но и для водителей. Известно, что сегодня государства Европы не готовы обеспечить всех приезжих рабочими местами. А многие из них и вовсе рассчитывают исключительно на пособие по безработице либо нарушают закон.

– *Только на этой неделе ограбили четыре литовские машины*, – говорит Игорь. – *Используют газ, который пускают в машину, усыпляя водителя. Забирают все: телефоны, навигаторы, телевизоры, ноутбуки, планшеты, карточки, кошельки. Документы, которые им абсолютно не нужны, забирают в спешке, а потом выбрасывают. И хорошо, если паспорт и бумаги на машину найдешь в ближайшем контейнере для мусора. В последнее время совсем обнаглели: пошел, например, водитель днем в душ – разбивают стекло и выносят все за несколько минут.*

Все затраты в таких случаях покрывает водитель – полиция в поисках этих людей бессильна. На ночь закрываемся изнутри и дополнительно завязываем двери ремнями безопасности. Этот способ придумали сами дальнобойщики: использовать газ в таком случае бессмысленно: чтобы попасть в кабину, понадобится не меньше двух часов. Нужно сказать, что, конечно, не все переселенцы грабят дальнобойщиков. На итальянских и французских стоянках немало приезжих, которые работают уборщиками туалетов и территорий.

Утром на стоянку приезжает еще одна машина с литовскими номерами. Алексей Савчук из Житомира и Сергей Коротков из Гомеля работают вдвоем. Ребята едут из Германии, где прошлой ночью у них из бака украли 1000 литров топлива. Убытки фирма вычтет из зарплат дальнобойщиков.

– *У нас либо не платят, либо работы вообще нет*, – рассказывает о причинах приезда в Литву белорусский водитель. – *Когда люди говорят, что идут в дальнобой, чтобы посмотреть мир, – они лукавят. Из окна машины ты видишь автобаны, объездные дороги, стоянки… У нас вот выгрузка в Милане, но вряд ли мы на него посмотрим.*

Мотивация, по мнению двух дальнобойщиков, здесь у всех одна – стремление обеспечить семью. Житель Житомира говорит, что никогда не собирался ехать работать в Европу, но ситуация на родине заставила. По условиям договора каденция должна составлять не меньше 65 дней.

– *В Беларуси одни проблемы, в Украине другие, но, по сути, они схожи*, – рассуждает дальнобойщик из Украины. – *В Киеве – пять кандидатов, а в Минске – один, и из них нужно выбрать наименьшее зло* (смеется). *Конечно, гордость за Майдан есть, но думаю, что ни политики, ни бизнесмены, ни народ не ожидали таких последствий. Однако я уверен, что положение в стране было бы еще хуже, если бы не Майдан.*

**– В Беларуси много российских каналов, которые рассказывают о вражде между Западной Украиной и Восточной…**

– У Запада с Востоком вражды точно нет, а вот у Востока с Западом не знаю. Мой бывший коллега живет в Крыму, после присоединения звонил и хвастался, как ему хорошо живется. Говорил, что есть порядок и «бандер» не пускают. Недавно общались, так интересуется, можно ли в Литву на работу податься…

У Алексея, кстати, два высших образования: экономическое и юридическое. Повторяет, что жизнь заставила сесть за руль.

– *Я не дальнобойщик по своей натуре*, – объясняет Алексей Савчук. – *У меня был совсем другой род занятий: начальник отдела, директор региональной торговой сети.*

*Мне 32 года, и сегодня в Украине я не готов работать за 300–350 евро, поэтому здесь и нахожусь. И таких, как я, очень много: только в нашей фирме четыре тысячи машин, на которых работают в основном украинцы и белорусы.*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

*(Продолжение в следующем номере.)*

РЭБУС

# Сенсацыйныя арышты

Сенсацыяй выбухнула ў СМІ інфармацыя пра арышт трох грамадзян Беларусі, аўтараў расійскага інтэрнэт-партала REGNUM.

Першым яшчэ 6 снежня ў сваім доме быў затрыманы 45-гадовы школьны вартаўнік з Брэста **Дзмітрый Алімкін**. Ён выпускнік Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Другі затрыманы – **Юрый Паўлавец** – працаваў дацэнтам кафедры гуманітарных дысцыплін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі.

І нарэшце трэці затрыманы беларус – прыхільнік "русского мира" **Сяргей Шыпценка** да 2010 года працаваў у Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі, але быў звольнены за супрацоўніцтва менавіта з расійскімі сайтамі "Империя" і REGNUM. Шыпценка, якога арыштавалі 9 снежня, паспеў цынічна пракаментаваць у сацыяльных сетках затрыманне сваіх калег: *"Соскучились по вежливым людям"*.

Каб было зразумела, за што патрапілі пад крымінальны пераслед дадзеныя аўтары расійскага партала, можна прывесці некалькі цытат з іх шматлікіх артыкулаў. Адзін з арыштаваных, напрыклад, пісаў, што *"беларуский язык" "никому не нужен, кроме обезумевшего недогосударства, стремящегося свернуть себе шею на Майдане по примеру соседей"*. Называў нацыю беларусаў "выдуманной". Другі сёлетні «Дзень вышыванкі" ў Мінску параўноўваў з прымусовымі мерапрыемствамі часоў нямецкай акупацыі і папярэджваў: *"Старшие поколения, привыкшие жить в великой стране, мыслить эпохами и глобальными проектами, уже лишили будущего, а молодежь с помощью пропаганды и промывания мозгов принуждают узреть во вздувшихся консервах светлую мечту. Дальше падать уже просто некуда. Или мы восстановим страну, воссоединимся и возродимся, или будем прокляты навеки, мучительно погибнем и станем назёмом"*.

Дарэчы, шэф-рэдактар аналітычнай рэдакцыі REGNUM – яшчэ адзін выхадзец з Беларусі **Юрый Баранчык**. У свой час Баранчык, кандыдат філасофскіх навук, быў супрацоўнікам Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, але пасля 2006 года з'ехаў у Маскву, дзе ўвесь гэты час працуе на расійскіх сайтах "Империя" і REGNUM.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

РЭАКЦЫЯ

## «Затрыманыя суб'екты не з'яўляюцца ні пакутнікамі за свабоду слова, ні палітвязнямі»

Беларуская грамадзянская супольнасць падзялілася ў сваіх ацэнках адносна затрымання адэптаў "русского мира". Многія лічаць гэтыя арышты справядлівымі і абгрунтаванымі, некаторыя (у тым ліку і актывістка кампаніі "Гавары праўду!" **Таццяна Караткевіч**) выступілі ў абарону затрыманых, лічачы, што парушаны іх правы на свабоду выказванняў.

Кіраўнік аналітычнага праекта Belarus Security Blog **Андрэй Паротнікаў** у сваім каментарыі, можна сказаць, падсумаваў спрэчку ў грамадстве:

– *Затрымалі не прыхільнікаў саюза з Расіяй ці аматараў расійскага пісьменства. Затрымалі персанажаў, якія заклікалі да знішчэння беларускай дзяржавы. Можна па-рознаму ставіцца да існуючага парадку рэчаў у Беларусі, але факт заключаецца ў тым, што знішчэнне яе дзяржаўнасці суправаджалася б гібеллю дзясяткаў, а хутчэй за ўсё, сотняў тысяч нашых суайчыннікаў. "Русский мир" у абліччы сваіх адэптаў марыць не проста пра паглынанне беларускай дзяржавы, але і пра знішчэнне або выгнанне носьбітаў беларускай нацыянальнай самасвядомасці. Пачытайце, што яго маларазумныя прыхільнікі калякаюць у інтэрнэце. Гэта тое, што на Захадзе называюць "злачынствамі нянавісці".*

*Такім чынам, затрыманыя суб'екты не з'яўляюцца ні пакутнікамі за свабоду слова, ні палітвязнямі. Палітычна і юрыдычна пазіцыя беларускіх улад бездакорная.*

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Следственным комитетом расследуются уголовные дела, возбужденные по ст.130 Уголовного кодекса Республики Беларусь

Основанием для возбуждения уголовных дел послужили поступившие из Министерства информации Республики Беларусь обращения о проведенных Республиканской экспертной комиссией по оценке информационной продукции на предмет наличия (отсутствия) в ней признаков проявления экстремизма экспертизах в отношении авторов статей, опубликованных на информационных ресурсах REGNUM, «Лента.ру», «ЕАДЭЙЛИ», Николая Радова, Павла Юринцева и Аллы Бронь.

По заключениям комиссии, в действиях названных авторов усматриваются признаки преступления, предусмотренного статьей 130 Уголовного кодекса Республики Беларусь (разжигание расовой, национальной, религиозной либо иной социальной вражды или розни).

В результате проведенных следственных действий было установлено, что за псевдонимом Алла Бронь скрывается Димитрий Алимкин, житель г.Бреста, работающий сторожем в одном из учреждений образования города, а за псевдонимами Павел Юринцев и Николай Радов – Юрий Павловец, преподаватель БГУИР.

Также было установлено, что данные лица по указанию шеф-редактора ИА «Регнум» Юрия Баранчика, гражданина Республики Беларусь, проживающего постоянно в Москве, готовили публикации за денежные вознаграждения.

В связи с тем, что Ю.Павловец и Д.Алимкин действовали группой лиц по единому замыслу, в настоящее время следствием рассматривается вопрос о соединении данных уголовных дел в одном производстве по ч.3 ст.130 Уголовного кодекса, санкция которой предусматривает лишение свободы на срок от 5 до 12 лет.

В ходе проведенных обысков получены данные о причастности указанных лиц к противоправной деятельности и получении ими денежных вознаграждений за подготовку заказных публикаций от гражданина Республики Беларусь, постоянно проживающего в Москве.

Следствие полагает, что основным мотивом их противоправной деятельности являлась материальная заинтересованность.

Подозреваемые задержаны. К ним применена мера пресечения в виде заключения под стражу.

ДАСЛОЎНА

## Колькі іншаземцаў лечыцца ў Беларусі?

*Міхаіл НЯДЗВЕЦКІ, дырэктар кампаніі-аператара медыцынскага турызму "Дэнтур Плюс":*



– Паводле статыстыкі за 2015 год, медыцынскі турызм (афіцыйна гэта называецца «экспарт медыцынскіх паслуг») атрымаў выручку ў 33,2 мільёна долараў пры 160.000 іншаземных пацыентах. Але, чэсна прызнаюся, да такой статыстыкі ў мяне вялізны недавер. Атрымліваецца, што ў сярэднім кожны іншаземец пакінуў у краіне за лячэнне крыху больш за 200 долараў. За такія грошы можна хіба што паставіць тры невялікія пломбы ці прайсці базавую дыягностыку.

Паводле нашага досведу магу сказаць, што сярэдні чэк за большасць медыцынскіх паслуг для іншаземцаў складае 3000–3500 долараў. Але ёсць і асобныя віды паслуг, у якіх чэк – больш за 60.000 долараў.

Паводле той статыстыкі, якую мы маем, каля 70 працэнтаў выручкі даюць сёння дзяржаўныя клінікі, астатнія 30 працэнтаў – прыватны рынак. Але я думаю, што ў рэальнасці лічба па прыватным рынку некалькі больш.

probusiness.by

ФАКТ

## Прадалі больш, чым купілі

За 11 месяцаў 2016 года беларусы прадалі банкам наяўнай і безнаяўнай валюты на 6,973 млрд долараў у эквіваленце. За той самы час набылі грамадзяне толькі 5,177 млрд долараў.

МУДРЫЕ МЫСЛИ



*Не бойся врагов –*
*в худшем случае они*
*могут тебя убить.*
*Не бойся друзей – в худшем*
*случае они могут тебя*
*предать.*
*Бойся равнодушных – они*
*не убивают и не предают,*
*но с их молчаливого согласия*
*существуют на земле*
*предательство и ложь.*

**Бруно ЯСЕНСКИ,**
**польский писатель.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Рыгор СІТНІЦА:

## «Скандалаў не будзе!»

*14 снежня ў Мінск з'едуцца паўтысячы майстроў пэндзля з усіх куткоў краіны. Яны прыбудуць на чарговы, XXII, з'езд Беларускага саюза мастакоў. Напярэдадні мінулага з'езда саюз ліхаманіла ад скандалаў.*



– А зараз скандалаў няма, – *распавёў "Народнай Волі" цяперашні старшыня Саюза, вядомы графік* **Рыгор Сітніца**. – Я за тры гады ўсіх памірыў, уціхамірыў, з усімі пасябраваў. Таму, спадзяюся, будзе звычайны з'езд – без высвятлення адносін, з абмеркаваннем творчых пытанняў.

**– А хто яшчэ, акрамя вас, мае намер балатавацца на пасаду старшыні?**

– Шчыра кажучы, пакуль нават і не ведаю.

**– Перад мінулымі выбарамі вы казалі: *"Калі нехта думае, што мне вельмі хочацца быць старшынёй Саюза мастакоў, магу пабажыцца: не хочацца!"***

– Мне і зараз не вельмі хочацца. Але я не той чалавек, які кідае гаспадарку. Тым больш ведаю, што магу яшчэ быць карысным калектыву і шмат зрабіць. Таму не магу махнуць рукой і сказаць: "Разбірайцеся самі, а я пайшоў!" Да таго ж мяне падтрымліваюць многія аўтарытэтныя людзі, і я мушу да іх прыслухоўвацца.

**– Як ацэньваеце свой сённяшні рэйтынг?**

– Наіўна ацэньваюць як вельмі высокі *(усміхаецца)*. Я прайшоў праз сходы ўсіх нашых арганізацыйных структур, абласных арганізацый, і нідзе не прагучала нейкіх значных заўваг у мой бок. І калі тры гады таму былі спрэс скандалы, то, шчыра кажучы, я атрымліваў папрокі не за сябе, а, як кажуць, за таго хлопца. Ніводны сход мне не выказаў недаверу. Наадварот, дзякавалі.

**– Адным з самых балючых пытанняў для мастакоў была плата за майстэрні: у ацяпляльны сезон лічбы – мільённыя. Ці ёсць нейкае прынцыповае рашэнне гэтай праблемы?**

– Ёсць спадзяванні на тое, што з лютага, калі ўступіць у сілу Кодэкс аб культуры, улады змогуць нам прынцыпова дапамагчы. А пакуль што дзеючае заканадаўства не дазваляе нейкіх радыкальных змен. Пакуль ідзе размова пра прынцыповыя зніжкі на тарыфы на цяпло.

**– Некалькі гадоў таму вы абяцалі пабудаваць побач з цяперашнім Палацам мастацтва сучасны арт-цэнтр. Калі не памыляюся, быў нават добры інвестар...**

– Я не абяцаў, гэта былі нашы з "Белгазпрамбанкам" мроі. Мы тады нават выставілі на абмеркаванне макет нашых мараў, але прынцыпова змянілася эканамічная сітуацыя ў краіне, і справа адклалася на няпэўны тэрмін.

Сёлета мы падпісалі дамову, што ў Палацы мастацтва на тры гады будзе размешчана так званая "Парыжская школа" "Белгазпрамбанка". Гэта таксама прынцыповы крок і да паляпшэння іміджу палаца. Ну і ўвогуле, калі вы заўважылі, за гэтыя тры гады мы прынцыпова палац змянілі, асабліва ўсярэдзіне. Паціху выйдзем і на фасад.

**– Але ж папрокі наконт таго, што камерцыйныя выставы там адкрываюцца часцей за мастацкія, на ваш адрас ляцяць дагэтуль…**

– У параўнанні з тым, што было, камерцыйных выстаў засталося вельмі мала. Можа, адна трэць – не болей. Проста людзі не ведаюць рэальнай сітуацыі. Мы ўвогуле прынцыпова павялічылі колькасць мастацкіх выстаў – і не толькі ў Палацы. Таму тыя, хто кажа, што ў нас адбываецца мала выстаў, не маюць рацыі.

**– На мінулым з'ездзе адным з самых спрэчных пытанняў з'езда была колькасць дэлегатаў. Далёка не ўсе пагадзіліся з квотай "адзін дэлегат ад чатырох сябраў", якую зацвердзіла Рада Саюза. І мастакі прагаласавалі за тое, каб на з'ездах прысутнічала роўна палова сябраў арганізацыі.**

– Так і будзе! Але мне падаецца, што гэта ўсё ж было не зусім правільнае рашэнне, прынятае на тле таго скандальнага з'езда. Яно вымагае большых расходаў. Добра, што зараз нам з транспартам дапамагае ўлада...

**– А дзе вы дэлегатаў з'езда ў Палацы мастацтва размесціце? Там жа на ўсіх месца не хопіць.**

– Так, таму з'езд адбудзецца ў Палацы прафсаюзаў – зноў жа, мы мусім заплаціць за арэнду памяшкання...

**Марына КОКТЫШ.**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ – спецыяльна для «Народнай Волі»

## Чухайце патыліцу, панове, чухайце…

Затрыманнем трох аўтараў расійскага агенцтва REGNUM Мінск паслаў Маскве выразны сігнал, што наважыўся бараніць інфармацыйную прастору ад разбуральнай антыбеларускай прапаганды. Не выключана, што, калі кіраваныя Крамлём медыі ўзмоцняць удары па Беларусі, нашы ўлады скарыстаюць і цэнзурныя нажніцы супраць нейкіх перадач маскоўскіх тэлеканалаў (такія прэцэдэнты былі). На самы кепскі выпадак маецца рубільнік: можна адключыць агрэсіўныя каналы, заблакіраваць пэўныя сайты.

Так ці інакш, улады, відаць, асэнсавалі: на праявы інфармацыйнай вайны супраць Беларусі давядзецца рэагаваць. Але, па-першае, пры сучасных тэхналогіях нічога наглуха не заблакіруеш. Па-другое, такім чынам не вырашыш задачу мацавання нацыянальнай свядомасці.

Між тым яна – найважнейшая. І тут не дапамогуць ні арышты зацятых "русскомирцев", ні фільтрацыя маскоўскага тэлевізійнага кантэнту. Тым болей што гэта справа рызыкоўная. Беларускія ўлады, гуляючы з Крамлём у інтэграцыю, нападпісвалі шмат папер пра адзіную інфармацыйную прастору. У выніку расійскія медыйныя плыні захліснулі Беларусь, а паспрабуй цяпер пастаў бар'ер – адразу ўзнімецца лямант пра парушэнне саюзных дамоўленасцяў і ўвогуле здраду. Вось вам і яшчэ адна пастка "братняй інтэграцыі" – інфармацыйная – у дадатак да наймацнейшай эканамічнай, вайскова-стратэгічнай залежнасці.

Акрамя таго, рубам паўстае пытанне: а чым расійскі медыйны кантэнт можна ўраўнаважыць ці замяніць?

Беларускае дзяржаўнае тэлебачанне атрымлівае ладную бюджэтную падкормку, але ж не ў каня корм. Бракуе драйву, крэатыву, вастрыні (калі не дадуць адмашку кагосьці "мачыць"). Адзін з улюбёных заняткаў "Клуба рэдактараў" на БТ – патаптацца па "Нашай Ніве", якая паслядоўна вядзе лінію менавіта супраць імперскай пагрозы. На асобных ток-шоу аж зашкальвае канцэнтрацыя тых самых "русскомирцев" (хіба што трохі хітрэйшых у фармулёўках).

Між тым загрузла пытанне пра рэтрансляцыю ў нас украінскага тэлеканала, хоць прэзідэнты Лукашэнка і Парашэнка даўно пра гэта дамовіліся. Падобна на тое, што тутэйшыя чыноўнікі, для якіх "майдан" – страшнае слова, пабойваюцца, каб разам з украінскім кантэнтам не папёрла крамола. Вісіць у паветры і пытанне пра паказ нейкага з польскіх каналаў. Дарэчы, на месцы беларускіх улад дзеля процівагі расійскаму ТБ самым хуткім і танным спосабам было б спыніць пераслед "Белсата" ды запусціць яго ў кабельныя сеткі.

Але ж гэта на сёння – са сферы фантастыкі. Бо "Белсат" крытычны не толькі ў дачыненні да імперскай палітыкі Крамля, але і да палітыкі беларускага рэжыму. Гэта ж можна сказаць і пра ўсе нашы недзяржаўныя грамадска-палітычныя медыі. Вось у чым загваздка для ўлад: сапраўдныя, а не казённыя патрыёты для рэжыму дыскамфортныя, бо маюць сур'ёзныя прэтэнзіі і да той сістэмы, якую збудаваў тут Лукашэнка.

На добры лад сёння варта было б усяляк спрыяць развіццю недзяржаўных СМІ, што шчыруюць на ніве беларускасці. Калі браць шырэй, то трэба даваць прастору беларушчыне ва ўсіх галінах, заахвочваць яе прамоўтараў, спрыяць фарміраванню большага слою свядомых грамадзян. Наверсе распачалі так званую мяккую беларусізацыю, але яна кволая і непаслядоўная. А тым, хто выходзіць на вуліцы з бел-чырвона-белым сцягам, лепяць шалёныя штрафы. Гэты сцяг для служак рэжыму – сімвал апазіцыйнасці, пагрозы сістэме. Сістэма баіцца разняволіць беларушчыну, бо сталая, свядомая грамадзянская супольнасць сапраўды будзе здольная і на моцны пратэст супраць аўтарытарызму, непазбежна стане змагацца за дэмакратычныя перамены.

У выніку мы бачым, што страх страціць уладу мацнейшы, чым страх перад імперскай экспансіяй. Але ж сёння час выбіраць. Бо калі сюды прыйдзе імперыя, то яна не абмяжуецца рэпрэсіямі супраць патрыётаў, а і павычышчае з крэслаў цяперашнюю наменклатуру, каб пасадзіць туды болей кіраваных марыянетак. Так што падумайце, панове, але не толькі пра свой шкурны інтарэс, а і пра нацыянальны. Тут трэба добра пачухаць патыліцу…

Відавочна, што небяспека імперскай экспансіі вымагае і пэўных жорсткіх захадаў у галіне інфармацыйнай бяспекі. Каб Масква як мінімум атрымала званочак. Але будзе кепска, калі ўлада зробіць стаўку на звыклы рэпрэсіўна-цэнзурны арсенал (тым болей што гэта рэч двухбаковавострая). Важней пераступіць праз фобіі ў дачыненні да незалежнага грамадства, бо без яго развіцця не абароніш і незалежнасць Беларусі. Варта даць абсяг трэцяму сектару, недзяржаўным СМІ, вывесці з чорных спісаў музыкаў-незалежнікаў, падтрымаць сапраўды нацыянальную культуру, узняць статус беларускай мовы.

Іначай кажучы, трэба не толькі даваць адпор імперскаму нахабству, экспансіі "русского мира", але і найперш будаваць моцны беларускі свет.



ПРЕМЬЕРА

# Независимый «Разум»

*В кинотеатрах Минска демонстрируется фантастический детектив «Разум». Позже он будет показан и в областных городах. Сценаристом, режиссером, продюсером новой белорусской киноленты стал пока никому не известный молодой человек, юрист из Минска 29-летний* ***Евгений Куренчанин.***
*Это его дебют в независимом белорусском кино.*
*Мы попросили Евгения Куренчанина назвать пять причин, по которым стоит отложить все дела и срочно идти в кинотеатр на «Разум».*

### 1. Фильм снят в Беларуси и на белорусские деньги

– Бюджета у фильма практически не было, фильм снят на огромном энтузиазме. Зато было четкое планирование действий. Да, специального образования у меня нет, так что кино в каком-то смысле – авантюра с моей стороны. Но я много читал, изучал, общался, долгое время готовился, консультировался, в общем, на площадку пришел не вслепую. Конечно, буду учиться. Не исключено – ВГИК, хотя бы летняя школа. Учиться надо постоянно. Однако ждать уже не мог: распирало желание снимать! Сначала мне обещали финансовую поддержку спонсоры, но перед самым началом отказались. Я стоял перед выбором: бросить свою мечту или ввязаться в бой. Я посоветовался с командой – решили начинать. Сделал один звонок на «Беларусьфильм»: есть ли возможность получить что-нибудь из бюджета? Узнал, что нет, что у них долгосрочное планирование. Но ждать времени не было!

### 2. Фильм дошел до широкого белорусского проката

– На кинофестивале «Лістапад» в Национальном конкурсе было заявлено, насколько я помню, 84 белорусских фильма. Но сколько из них увидит зритель? А наш «Разум» взяли в кинотеатры! Прокатчикам понравился нечасто встречающийся в Беларуси жанр – фантастический детектив. Собственно, какая главная идея фильма: если бы люди имели такую реальную возможность – передавать мысли на расстоянии – наступила бы эра гармонии. Потому что каждый старался бы держать голову и душу в чистоте, боялся бы тайных черных намерений. В прокате сказали: «Что-то свежее».

### 3. В фильме снимались знаменитые актеры Купаловского театра

– Известные купаловцы – народный артист Николай Кириченко, Павел Харланчук-Южаков, Олег Гарбуз, Игорь Петров – согласились сыграть в «Разуме». Возможно, их подкупил мой наивный авантюризм: давайте сделаем белорусское кино и все! Они работали без гонораров. «Ты сначала сделай дело», – сказал мне по-отечески Николай Михайлович Кириченко. Собственно, все, не только купаловцы, со старта не получили еще и рубля. Оплата будет потом, когда, очень надеюсь, пойдет процент от проката.

Николай Кириченко играет в фильме профессора Харди, самого умного и мудрого. У него настоящие научные монологи, очень трудные. Но Николай Михайлович работает с одного-двух дублей – и готово. Вот что значит сила подготовки и талант. Для меня самого это была такая школа!.. И огромное удовольствие. Приоткрою секрет: Павел Харланчук говорит в нашем фильме по-белорусски. Это очень органично. Как у Паши может быть не органично? Да просто красиво! А главную роль исполняет молодой актер ТЮЗа Павел Лотарев.

### 4. В фильме актриса по-настоящему дружит с волком

– Главная героиня, которую исполняет актриса минского ТЮЗа Елизавета Фалей, действительно подружилась с волком. Этого требовал сценарий. И она так вошла в роль, что хищник только ее и подпускал (и хозяев, конечно)! На Браславщину к егерю, у которого в вольере живут волки, мы с Елизаветой приехали на несколько дней раньше, чтобы она стала подкармливать животное и постепенно вошла с ним в контакт. Зритель сам увидит, как рождается эта дружба, как волк начинает доверять человеку. С Лизой у него – гармония. А вот к парням волк относился настороженно.



*Кадр из фильма «Разум» – актеры Павел Харланчук-Южаков, Елизавета Фалей, Павел Агакарян, Николай Кириченко.*

### 5. Фильм снимали идейные люди

– Оператором фильма работал Иван Маслюков. Он такие задачи помог мне решить, что вы!.. Ваня – идейный, он мне сразу понравился, с ним можно иметь дело. Я очень признателен. Вообще, все на площадке были идейными: надо – значит, надо. Помню первый съемочный день 30 мая. Меня вдруг охватило такое волнение… Нет, я понимал, что дойду до победы. Но вдруг чувствую: внутри ступор. Тогда я объявил перерыв на полчасика, прогулялся, настроился, взял себя в руки. Последний съемочный день был 14 августа.

Этот фильм был испытанием: могу ли? Теперь знаю, что могу. Я решил: Год культуры – мой год, знаковый. Я так для себя постановил. Сегодня уже думаю о втором фильме.

**Елена МОЛОЧКО.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК

### На дамашні тэлефон тэлефануюць маркетолагі

*Перыядычна мне тэлефануюць на дамашні тэлефон супрацоўнікі нейкіх фірм і прапануюць купіць у іх то фільтр вады, то посуд… Але я нікому не давала свой нумар тэлефона і не жадаю, каб мне званілі невядомыя людзі. Куды можна паскардзіцца на гэтыя фірмы?*

**Валянціна БОХАН, Мінск.**

– Гэта на самай справе хітрыкі сеткавых маркетолагаў, якія знаходзяць па даведніку тэлефоны грамадзян і прапануюць людзям, як правіла, альбо не вельмі якасны, альбо вельмі дарагі тавар. Лепш, безумоўна, нічога ў іх не купляць, а прэтэнзіі можаце прад'явіць толькі фірме, чые прадстаўнікі вас турбуюць.

### Не змагу выплаціць крэдыт за тавар

*Набыла ў крэдыт пральную машыну, але пазней зразумела, што зрабіла вялікую памылку, бо выплаціць крэдыт не змагу. Ці можна вярнуць пакупку ў магазін?*

**Алеся СУДЗІЛОВІЧ, Гродна.**

– Можна вярнуць, але толькі пасля выплаты крэдыту.

### Падушка мае непрыемны пах

*Ці можна здаць назад у магазін пуховую падушку? Яна не падыходзіць па памеры і мае непрыемны пах.*

**Марына ПІНЧУК, Вілейскі раён.**

– Можна.

### Купіла нязручныя боты

*Набыла боты, абула іх усяго адзін раз. Калодка аказалася нязручнай, на нагах з'явіліся мазалі… Ці можна вярнуць тавар у магазін?*

**Алена ГРАБОЎСКАЯ, Мінск.**

– Можна на працягу 14 дзён.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЕГИСТРАТУРА



# Надо ли белорусам бояться гонконгского гриппа?

*В российской прессе появились статьи-ужастики: в этом сезоне ожидается сильнейшая за последнее время эпидемия гриппа, пик которой наступит в зимний период. Прогнозируется вспышка гонконгского гриппа, против которого якобы у населения нет иммунитета. Данный вирус называют смертоносным. Насколько серьезно можно относиться к таким прогнозам? Последние несколько лет грипп, можно сказать, щадит белорусов. Эпидемий нет, смертельных осложнений тоже. Или это все-таки та болезнь, которую всегда надо встречать во всеоружии? Ликбез о гриппе для наших читателей мы попросили провести руководителя Национального центра по гриппу, кандидата медицинских наук, доцента Наталию ГРИБКОВУ.*

**– Наталия Васильевна, что такое «гонконгский грипп», которым уже стали пугать население? Какова вероятность того, что он придет в Беларусь в этом сезоне?**

– Грипп относится к так называемым неуправляемым инфекциям, что определяется рядом факторов. Например, способность вновь возникать в результате мутаций вирусов, активно передаваться от человека человеку. Распространению гриппа могут способствовать непогода, наличие сопутствующих заболеваний, другие факторы. Поэтому долгосрочные прогнозы по гриппу могут не совпадать с эпидемической ситуацией в конкретный момент эпидсезона. Если это случается, прогнозы корректируются.

Что касается «гонконгского вируса»… Дело в том, что вирусы субтипа A(H3N2), получившие название по месту их первого выделения «Гонконгский вирус гриппа», в силу изменения типа гемагглютинина оказались новыми для иммунной системы человека и в 1968 году вызвали очередную пандемию гриппа. С того времени вирусы данного субтипа в сочетании с другими вызывают эпидемии разной степени интенсивности.

Можно сказать, что сегодня циркулируют «правнуки» вирусов, появившихся в 1968 году. Разные поколения людей с ними уже встречались, и иммунная система у большинства взрослых будет готова к встрече с этим вирусом. Защитить людей от заболевания гриппом, снизить тяжесть заболевания у тех, кто не имел контакта с этим субтипом вирусов, или уменьшить вероятность развития постгриппозных осложнений поможет вакцинация. В этом сезоне она направлена на выработку иммунитета именно по отношению к данному штамму вирусов – гриппа A(H3N2).

**– Прививка от гриппа разрабатывается на основании рекомендаций ВОЗ, которые регулярно публикуют прогнозы о том, какой грипп ожидается в предстоящем эпидсезоне. Но как часто ВОЗ ошибается в таких прогнозах?**

– ВОЗ уделяет большое внимание профилактике гриппа, так как ежегодный экономический и социальный ущерб от этой инфекции в разных странах достаточно большой, не говоря об ущербе от пандемии.

Долгосрочные прогнозы составляются на основании анализа результатов работы Глобальной системы по контролю гриппа, которая охватывает государства – члены ВОЗ на всех континентах планеты и позволяет анализировать более 2000 ежегодно выделяемых вирусов. На основании такого глобального анализа определяются актуальные штаммы вирусов гриппа и делаются рекомендации по составу противогриппозной вакцины отдельно для стран Северного и Южного полушарий. Этих рекомендаций придерживаются заводы-производители вакцин.

Обычно вакцина для нашего Северного полушария содержит три актуальных штамма вируса. Но если после запуска процесса производства вакцины появляется какой-то новый вирус, то что-то изменить уже можно и не успеть. Такие случаи бывают, но это скорее исключение из правил.

**– В этом сезоне появилась белорусская вакцина. Каковы ее плюсы? Есть ли минусы?**

– Белорусская вакцина относится к субъединичным противогриппозным вакцинам и соответствует всем требованиям, предъявляемым к противогриппозным вакцинам.

**– Наталия Васильевна, что вы ответите тем, кто не делает прививку от гриппа, объясняя это бесполезностью вакцинации, потому что вирус постоянно мутирует?**

– Думаю, тех, кто хоть раз перенес истинный грипп, не надо убеждать в пользе вакцинации – они сами пойдут на прививку и будут убеждать окружающих в ее пользе.

Почему необходимо ежегодно вакцинироваться от гриппа? Дело в том, что уровень антител, защищающих организм от инфицирования после перенесенного заболевания или вакцинации, постепенно снижается и к началу следующего сезона уже не может обеспечить профилактический эффект.

Вакцинация позволяет иммунной системе человека подготовиться к встрече с вирусом гриппа. Поверьте, искренне жаль тех людей, которые в период проведения кампании вакцинации игнорировали предупреждения врачей, а в период подъема заболеваемости, когда вакцинироваться уже поздно, просят привить детей или их самих.

Мне хотелось бы особо подчеркнуть необходимость вакцинации такой группы риска, как беременные. И вот почему. Родившегося ребенка до шести месяцев защищают от гриппа только материнские антитела, так как иммунная система ребенка еще не может ответить на инфицирование. Поэтому, прививаясь, будущая мама защищает и своего малыша. Эффективность вакцинации подтверждается и нашими исследованиями: в прошедшем сезоне вирус гриппа был выявлен только в образцах, полученных от непривитых пациентов.

**– Но полностью быть застрахованными от того, что не повторится сезон 2009/10, когда на нас обрушился «свиной грипп», наверное, нельзя?**

– Тот сезон характеризовался распространением нового пандемического вируса гриппа. Безусловно, это сопровождалось повышенной заболеваемостью. Но этот субтип вируса продолжает циркулировать до настоящего времени и перешел в разряд сезонных вирусов. Естественно, что количество лиц, не контактировавших с этим вирусом, постоянно уменьшается. Другими словами, выработался так называемый коллективный иммунитет, который сдерживает распространение этого вируса. Что касается вирусов гриппа A(H3N2) и B, то они тоже циркулировали постоянно.

**– Так все-таки какой грипп ожидается в этом году в Беларуси? Когда прогнозируется пик заболеваемости?**

– Нашим Национальным центром по гриппу на основании анализа эпидемической ситуации в стране за последние годы составлен прогноз на сезон 2016/17 годов. Мы ожидали в наступившем сезоне участия в эпидемическом процессе всех трех вариантов вирусов гриппа, что, собственно, характерно для эпидемических сезонов с середины 70-х годов прошлого столетия. Вместе с тем анализ текущей ситуации, складывающейся в странах дальнего и ближнего зарубежья, позволяет ожидать доминирования, по крайней мере на ранних стадиях процесса, вирусов гриппа, аналогичных гонконгскому – A/Hong Kong/4801/2014 (H3N2).

Что касается пика респираторной заболеваемости, то по результатам многолетних наблюдений свыше 76% подъемов заболеваемости в стране приходится на вторую половину января – первую половину февраля.

**– И последний вопрос. Наталия Васильевна, сейчас появились лекарства от гриппа. Есть импортные, есть отечественные. Насколько они эффективны?**

– В аптеках сегодня имеется большой ассортимент лекарственных средств, направленных на устранение симптомов респираторных заболеваний. Но есть и специфические противогриппозные препараты. Сегодня это ингибиторы нейраминидазы, активные как в отношении вирусов гриппа A, так и в отношении вирусов гриппа B. В период пандемии 2009 года белорусские ученые создали аналог импортного препарата. Нашей лаборатории посчастливилось проводить его испытания в тот напряженный период. Рада сообщить, что оба препарата проявили сравнимую активность. Исследования современных вирусов гриппа, осуществляемые в рамках Глобальной сети наблюдения за гриппом, предусматривают обязательное определение чувствительности вирусов к этим препаратам. Такие исследования проводятся и в нашей стране, а результаты доводятся до врачей.

Единственное, о чем мне хотелось бы предупредить: не спешите самостоятельно применять эти препараты. Принимайте их только по назначению врача. Это поможет избежать бесконтрольного и необоснованного их использования. Аналогичную гриппу симптоматику могут вызвать различные респираторные негриппозные вирусы и бактерии, в отношении которых данные лекарственные средства неэффективны.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



**Справочно**

**Последние пять лет в Беларуси не зафиксировано эпидемий гриппа. По сравнению с 2010 годом заболеваемость уменьшилась в 52 раза!**

ПАМЯТКА

## Как защитить себя и других от гриппа



**Прикрывай нос и рот одноразовыми салфетками, когда кашляешь или чихаешь.**

**Регулярно мой руки с мылом.**

**Если у тебя симптомы, похожие на симптомы гриппа, не приближайся к другим людям ближе, чем на 1 метр.**

**Избегай объятий, поцелуев и рукопожатий при встречах.**



**Немедленно выбрасывай использованные салфетки.**

**Если у тебя симптомы, похожие на симптомы гриппа, немедленно обратись к врачу.**

**Если у тебя симптомы, похожие на симптомы гриппа, оставайся дома. Не ходи на работу, в школу, не посещай общественные места.**

**Не трогай глаза, нос или рот немытыми руками.**

МАЗАІКА

## Па пяцьсот!

*Найлепшыя бамбардзіры футбольнага чэмпіянату Беларусі-2016 **Віталь Радзівонаў** і **Міхаіл Гардзяйчук** атрымалі грашовыя ўзнагароды.*

Абодвум ігракам далі па 1000 беларускіх рублёў (каля 500 долараў), інфармуе Tribuna.com.



Радзівонаў *(на фота)* і Гардзяйчук забілі па 15 мячоў.

## Прыехалі!

*Старшы трэнер мужчынскай зборнай Беларусі па біятлоне **Аляксандр Сыман** папрасіў прабачэння ў балельшчыкаў.*

Нагодай стаў інцыдэнт на эстафеце ў мінулую нядзелю на этапе Кубка свету ў славенскай Паклюцы.

Паводле слоў Сымана, каманда прэтэндавала на сур'ёзныя вынікі. «Першым на дыстанцыю накіраваўся **Сяргей Бачарнікаў**. Але на першым крузе Сяргей паваліўся з-за стромкага спуску і пашкодзіў вінтоўку. На агнявым рубяжы яму выдалі запасную. На двух агнявых рубяжах Бачарнікаў зрабіў па тры промахі, а гэта штрафныя кругі і час. У выніку камандзе прыйшлося спыніць гонку. Вядома ж, хацелася б папрасіць прабачэння ў заўзятараў, што так выйшла», – цытуе словы Сымана сайт Беларускай федэрацыі біятлона.

Пераможцам эстафеты стала зборная Францыі, серабро заваявала расійская каманда, а бронзу – каманда Германіі.

## Бронзавы заплыў

*Беларус **Павел Санковіч** атрымаў бронзавы медаль на чэмпіянаце свету па плаванні ў 25-метровым басейне, якія праходзіць у канадскім Віндзары.*



Санковіч стаў трэццім на дыстанцыі 50 метраў на спіне, паказаўшы вынік 23,03 секунды. Золата дасталася японцу **Юніа Кога**, серабро – французу **Жэрамі Стравю**.

КАДРЫ

## Віктар Ганчарэнка пайшоў на павышэнне

*Учора беларускі футбольны спецыяліст узначаліў маскоўскі ЦСКА.*

Да апошняга часу ён трэніраваў "Уфу", але настаўнік армейскага клуба **Леанід Слуцкі** яшчэ на мінулым тыдні аб'явіў ігракам, што новым галоўным трэнерам каманды стане **Віктар Ганчарэнка**.

Учора стала афіцыйна вядома, што Ганчарэнка ўзначаліў ЦСКА, і гэта відавочны прагрэс у кар'еры беларускага спецыяліста, якога, да слова, не так даўно прызналі ў Беларусі "Трэнерам года".

Тэрмін працоўнага пагаднення беларускага спецыяліста разлічаны на 2 гады з опцыяй яго працягу.

З-ПАД ПЯРА

## Дбаючы пра культуру мовы

Надоечы Зміцер Санько выпусціў у выдавецтве "Тэхналогія" сваю новую кніжку "А як па-беларуску? Прыказкі, прымаўкі, фраземы". У ёй змешчаны найбольш пашыраныя расійскія выслоўі і іх беларускія адпаведнікі. Там чытач знойдзе беларускія адпаведнікі такіх выразаў, як "язык мой – враг мой", "видит око, да зуб неймет", "в ногах правды нет", "седина в бороду – бес в ребро", "человек предполагает, а Господь располагает", "насильно мил не будешь", "не все коту масленица", "лучше синица в руках, чем журавль в небе" ды многіх іншых.

Як адзначана ў анатацыі, рыхтуючы гэтае выданне, аўтар меў на мэце паказаць хараство, адметнасць і багацце роднай мовы ў галіне выслоўяў. Яно адрасуецца ўсім, хто імкнецца да чысціні сваёй гаворкі, да вобразнасці і трапнасці ў штодзённым маўленні. Асабліва спатрэбіцца кніга школьнікам, студэнтам і настаўнікам беларускай мовы і літаратуры.

Адначасова з названай кніжкай у выдавецтве пабачылі свет яшчэ два выданні на гэтую тэму: двухбаковая лістоўка, якая таксама называецца "А як па-беларуску?", і маленькая брашура кішэннага фармату "125 папулярных выслоўяў. Падарожны даведнічак". Усе яны каляровыя, надрукаваны на якаснай паперы, прадаюцца па невысокім кошце. Пытайцеся ў крамах кнігагандлёвага таварыства "Белкніга".

**Ігар КРАЎЦЭВІЧ.**



ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

Виталий ЖУКОВСКИЙ:

# «У человека на лбу не написано, что он негодяи...»

*Главный тренер одной из самых скандальных футбольных команд прошедшего чемпионата рассказал «Народной Воле» о своем тернистом жизненном пути, о любви к футболу, о чести и предательстве.*

Жизнь футбольного клуба «Ислочь» в минувшем первенстве была, как зебра: полоса черная – полоса белая. Дебютант высшей лиги заявил о себе не как робкий новичок и в итоге занял в турнирной таблице почетное 7-е место. Однако в бочке с медом не обошлось без ложки дегтя: игроки и представитель тренерского штаба именно этой команды фигурировали в громком скандале, связанном с договорным матчем.

Но разговор с главным тренером ФК «Ислочь» **Виталием ЖУКОВСКИМ** – не только об этом. Это история еще и о том, чего может при большом желании достичь целеустремленный человек…



**– Вы рано закончили футбольную карьеру. Стечение обстоятельств?**

– И достаточно неприятное стечение обстоятельств. Моя футбольная карьера только начиналась, год я уже находился в основном составе борисовского БАТЭ, были неплохие перспективы. Но… Не сложилось. Помню, 30 декабря 2002 года тренировались в крытом футбольном манеже, столкнулся с двумя футболистами, которые упали мне на колено. Дальше – не очень удачная операция, нога начала отекать, и – прощай, футбольная карьера! Поверьте, было очень обидно, потому что футболом занимался практически с четырех лет, строил какие-то планы…

**– Наверное, тяжело в 18 лет оказаться, как говорят, вне игры?**

– Конечно, но в то же время я понимал, что жизнь на этом не заканчивается и ее придется как-то перестраивать. Год сидел дома, в Михановичах, затем начал искать работу. Устроился в компанию, которая делала коробки для мороженого, но со временем понял, какой ловкий ход придумало руководство фирмы. Набирали людей, те работали пару месяцев на испытательном сроке и в итоге получали копейки. Мол, не прошли испытание. Этих работников увольняли – набирали новых. Получалась почти бесплатная рабочая сила. Естественно, я высказал все, что думал по этому поводу, где-то даже на повышенных тонах, и уже через месяц снова был безработным. После этого поехал искать счастья в Минск. Работа грузчиком в мебельном магазине, если откровенно, материального благополучия и душевного равновесия мне тоже не принесла. В 6.50 утра – электричка в город, вечером – домой. Жил от выходных до выходных. Но уже через пару месяцев друзья предложили работать на строительном рынке в «Уручье». И долго меня уговаривать не пришлось.

**– На рынке знали, что вы – бывший футболист?**

– Да там из продавцов можно было собрать не самую плохую команду высшей лиги! Как оказалось, многие игроки после травм или те, кто закончил карьеру, шли работать именно туда. Все-таки центральный рынок, вся страна приезжала закупать стройматериалы. И, если у человека была хотя бы небольшая предпринимательская жилка и мозги, то он себя неплохо чувствовал. Через некоторое время у меня появились первые более-менее нормальные деньги, открыли с одним парнем свою «точку». Позже начали расширять бизнес. Но, как говорят, сколько волка ни корми…

Я снова начал играть в футбол на любительском уровне, в родных Михановичах собрали неплохую команду. Два года подряд выигрывали Кубок и чемпионат Минского района. Но мне играть было сложно. Давала о себе знать старая травма, при моем весе 110 килограммов нагрузка на колени была еще та. Старшие ребята сразу сказали: «Не мучай себя, а то скоро станешь инвалидом. Лучше тренируй…» И, знаете, я с таким азартом окунулся в тренерскую работу! А уже в 2010 году меня заметили и пригласили главным тренером в любительскую команду "Ислочь" из Минского района.

**– Солидный карьерный рост для 24-летнего парня…**

– Рост был, хотя работал не за деньги – это точно. И первую тренерскую зарплату получил только три года назад, до этого получал только питание. Когда в стране начался кризис, пришлось продавать «точки» на рынке, работы снова не стало. С ежедневником сидел в футбольном манеже, наблюдал за тренировками команд высшей лиги, что-то конспектировал. Один тренер мне тогда сказал: «Виталий, брось ты это дело. Тренером ты денег не заработаешь». Я посчитал иначе. И искренне верил, что смогу чего-то достичь на тренерской работе. В скором времени после моего прихода в «Ислочь» команда стала победителем области, неплохо выступила в региональном Кубке страны… Решили попробовать себя на республиканском уровне, во второй лиге. Конечно, это все были только планы, но, помнится, решил сделать такой ход. Объявил игрокам, что у нас начинается предсезонный сбор, обменял 100 долларов, заплатил за аренду раздевалок в парке Челюскинцев. Три раза в неделю тренировались в парке – бегали кроссы, делали какие-то силовые упражнения…

В итоге мы заявились во вторую лигу, потом был, можно сказать, сенсационный выход в первую лигу. А дальше впервые в истории белорусского футбола «Ислочь», обыграв команды из Франции, Словакии, Боснии и Герцеговины, прошла отборочный раунд Кубка регионов УЕФА, а в финальном завоевала бронзовые медали!

**– Попадание в элитный дивизион в прошлом сезоне стало для вас неожиданностью?**

– Нет. Помню, когда мы играли еще в первой лиге, капитан команды Саша Холодинский подошел ко мне и говорит: «Есть предложения из высшей лиги, хотелось бы там поиграть». Я ему тогда пообещал: «Ты будешь играть в высшей лиге в составе «Ислочи»!» Так и получилось.

Мы хорошо стартовали, все старались. Но беда пришла откуда не ждали.

**– В августе этого года пресс-служба МВД сообщила, что "представитель тренерского штаба и игроки клуба «Ислочь» подозреваются в получении незаконного вознаграждения в сумме 10 тысяч долларов США за проведение «договорного» матча с командой «Динамо-Брест»…»**

– Я вам честно скажу: когда впервые об этом услышал, у меня слезы в глазах стояли. Силовики рассказывали о футболистах, которые сдавали матч, а мне плакать хотелось. Хотя сначала были сомнения, я понимал, что те могли и блефовать. Пришел в клуб, начал разговаривать с «фигурантами» дела. И, знаете, реакция у людей была такая, как будто и на самом деле ничего не произошло. Они были настолько уверены в своей безнаказанности!.. Клялись мне всем, что у них есть, – родными и близкими. Не каждый актер так сыграет на сцене, как играли они.

Но позже все подтвердилось. Я потерял лидеров, надо было строить новый коллектив. Кстати, эти люди сами меня и просили, чтобы взял их в команду, и вот так они «отблагодарили» тренера за его доброту и понимание, за то, что дал шанс… Но у человека ведь на лбу не написано, что он негодяй.

**– Ваш бывший помощник в тренерском штабе Владимир Маковский, который тоже принимал участие в договорном матче, позже так оправдывался: мол, «ввязался в эту ситуацию из-за своей доброты».**

– Ах, он такой добрый?! Это он по доброте душевной подставил людей, которые ему доверяли?! Сейчас можно много чего говорить. Подождите, сейчас журналистам еще столько расскажут «сказок Венского леса», что уши будут до колен. Сейчас у них основная задача – прикрыть одно место. Но предавать людей – это подло.

**– Вы беседовали после этого с Маковским?**

– Звонил один раз, но он не снял трубку. Обиделся, наверное, что я собрал пресс-конференцию и назвал фамилии тех, кто участвовал в «договорняке». Конечно, на их взгляд, надо же было все скрыть. Но они не о клубе думали, а о себе. Если бы эти ребята были честны, мы реально могли претендовать в сезоне даже на попадание в еврокубки. И, кстати, там футболисты получили бы гораздо больше денег, чем им предложили дельцы от футбола. Так что у него был шанс честно помочь всем – и команде, и ребятам.

**– С одной стороны, вам нужно радоваться, что дебютант так удачно выступил в чемпионате, с другой – есть повод и для печальных размышлений. Больше радости или горести?**

– Мне кажется, что та скандальная ситуация, в которую мы попали, рано или поздно, но все равно должна была произойти в белорусском футболе. Это как в рулетке, но стрелка, увы, показала на нас. Пострадала команда, дисциплинарный комитет Белорусской федерации футбола принял решение снять с «Ислочи» в следующем сезоне 7 очков. Кстати, я не понимаю, почему наказали клуб, тогда как фигуранты дела еще и не наказаны, а один из них даже отсудил у клуба 53 миллиона неденоминированных рублей.

Впрочем, будем считать, что это уже история. В прошедшем сезоне мы проделали большую работу и сейчас думаем о будущем. Хотя лично у меня нет ощущения кайфа от того, что удалось сделать. Но я еще молодой тренер, кайфовать будем на пенсии…

**Алесь СИВЫЙ.**



Рэкламны аддзел: narodnayav@gmail.com
тэл.: +375 29 8 444 725, +375 29 111 30 77, +375 17 328-66-09

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.12.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26 000 экз. Заказ № 4818.

9 772071 964000 16097